

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№224 (737) 17 лістапада 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500023 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Первый заместитель министра иностранных дел Беларуси Георгий Таразевич принял Чрезвычайного и Полномочного Посла Федеративной Республики Германия Готфрида Альбрехта по его просьбе.**

Во время встречи обсуждались вопросы дальнейшего развития взаимовыгодного двустороннего сотрудничества в разных сферах.

❑

**3—19 декабря белорусская официальная делегация в составе десяти человек отправится в Швейцарию по приглашению Департамента развития предпринимательства Международной организации труда (МОТ).**

Представители Беларуси примут участие в обсуждении проекта программы МОТ, предусматривающей решение проблем занятости и энергосбережения в рамках конверсии.

❑

**Проблемы конверсии и демилитаризации промышленного комплекса Республики Беларусь обсудят участники открывшейся вчера белорусско-американской конференции.**

В дискуссиях примут участие исследователи из США, представители белорусских предприятий и заинтересованных министерств.

❑

**Концертом с поэтическим названием "Белая Русь ты моя..." начались Дни белорусской культуры в России.**

Большая программа с участием мастеров искусств нашей республики была показана на самой престижной площадке Москвы — в концертном зале "Россия".

❑

**Пост наблюдения 12-й погранзаставы Московского погранотряда в Таджикистане обстрелян неизвестными 15 ноября.**

По нападавшим был нанесен артиллерийский удар. Со стороны пограничников один солдат контужен.

❑

**Тбилиси с 16 ноября до 1 декабря переводится на особый режим обеспечения электроэнергией.**

В квартиры электричество не будет подаваться в течение 6 часов в сутки — четырех утром и двух вечером.

❑

**Согласно решению совета директоров Всероссийской государственной телерадиокомпании "Останкино", в ночь с 12 на 13 декабря в прямом эфире планируется передача "Власть-94", по ходу которой телезрители будут информироваться о предварительных результатах проведения выборов.**

❑

**На состоявшихся вчера очередных торгах Московской межбанковской валютной биржи доллар подорожал еще на 9 рублей. Его курс составил 1194 рубля.**

❑

**По данным департамента статистики Литовской Республики, в октябре уровень инфляции в стране составил 7,3 процента.**

Именно на столько в сравнении с сентябрем повысились цены на потребительские товары и услуги.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Все товары в гости к нам!

**С 16 до 20 ноября в выставочном комплексе "Минскэкспо" работает международная выставка потребительских товаров "Консумэкспо-93".**

Не случайно организаторы утверждают, что тут можно приобрести лучший подарок к Рождеству: более 40 компаний из дальнего и ближнего зарубежья предлагают не только посмотреть, но и приобрести одежду, обувь, игрушки, галантерею. Подобные выставки предполагается проводить ежегодно — уже со следующего года они будут называться "колядными".

**Игорь АЛЕКСАНДРОВ.**

### За две недели — иностранный язык

**Рекордно короткий срок потребовался витебским новаторам Наталье и Владимиру Черемновым, чтобы подтвердить действенность своей системы интенсивного обучения иностранному языку.**

За 2 недели ежедневных трехчасовых занятий добровольцы, ранее незнакомые с английским, освоили по 2800 слов и в результате смогли перевести 300 предложений, произнесенных неведомым диктором.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

### Мороз правительству не указ

**На три минуты была прервана в прошлую субботу в Гомеле передача национальной телерадиокомпании.**

В эфир с экстренным сообщением вышла начальник гражданской обороны города, председатель горсовета С.Гольдаде. Она обратилась к руководителям предприятий и организаций, инженерным службам с требованием принять срочные меры, чтобы не допустить размораживания отопительных систем. Связано это с уменьшением подачи российского газа, отсутствием лимита на "голубое топливо" для котельных предприятий, работающих и на отопление жилых домов.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Шпионить некрасиво!

**Министерство безопасности России располагает данными, что некоторые действующие в стране инофирмы, а также совместные предприятия созданы по инициативе спецслужб для ведения против РФ разведывательной деятельности в сфере экономики.**

Об этом сообщил в интервью "Российской газете" первый заместитель министра безопасности Сергей Степашин.

По его словам, недавно сотрудники МБР пресекли крупномасштабную акцию военно-промышленного комплекса и спецслужб Северной Кореи. Организатор операции, советник посольства КНДР в Москве генерал-майор Нам Ге Ук объявлен персоной нон грата и выдворен за пределы России.

### Согрейте душу...

**Операционные палаты для больных Могилевской областной больницы в срочном порядке оснащены электрообогревателями.**

Дополнительный обогрев потребовался по той причине, что центральная отопительная система города из-за дефицита мазута и газа не в состоянии обеспечить нормальную температуру в лечебном заведении.

**Николай ЗАПОЛЬСКИЙ.**

### Спорт-экспресс

Минский хоккейный клуб "Тивали" вышел в финальную стадию Кубка Европы, розыгрыш которого пройдет 26—30 декабря этого года в Дюссельдорфе.

Группа "К" — "Дюссельдорф" (Германия, на правах хозяина финала), "Милан" (Италия), ТПС (Финляндия), "Клотен" (Швейцария).

Группа "L" — "Мальме" (Швеция, прошлогодний обладатель Кубка), "Динамо" (Россия), "Брюнес" (Швеция), "Тивали" (Беларусь).

❑

В российском городе Кстово завершился чемпионат мира по самбо. Наша женская сборная завоевала 4 золотые, 1 серебряную и 2 бронзовые награды, у мужчин соответственно 1,2 и 3 медали.

❑

Английская газета "The Daily Mirror" пообещала заплатить по 10 тысяч фунтов стерлингов каждому футболисту сборной Польши, если она победит в сегодняшнем отборочном матче чемпионата мира-94 команду Голландии. В этом случае у английской сборной появляется шанс попасть в финал чемпионата мира.

### Бабушка, давай полмиллиона!

**Воистину, серым волком обернулся дорогой внучек для родной бабушки.**

Как сообщил корреспондент РИДа, драгоценный отпрыск не придумал ничего лучшего, как, подговорив дружков-девятиклассников, подкараулить старушку на проспекте Машерова и силой отнять полмиллиона. Впрочем, как и в сказке, справедливость восторжествовала: пацаны были задержаны, часть денег возвращена.

**Ирина ГАРЕЛАЯ.**



### Тайная студия — в Минске. Секс-бомба — в Витебске

Грозное предупреждение о штрафных санкциях в 20 минимальных зарплат видеопиратам прозвучало во время пресс-конференции, которую провела в Витебске комиссия республиканского Киновидеорегистра во главе с его председателем Владимиром Рощиным.

Заинтриговало и сообщение о выявленной в Минске тайной студии порнофильмов, в одном из которых вроде бы снималась витебская секс-бомба. Кто именно — станет известно после окончания следственных действий милиции.

**Степан СТАРОЖИЛ.**

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Шчасце нараджаецца ў спрэчках?

**Мікалай ГАЛКО**

У дэпутатаў было багата часу, каб лепшым чынам падрыхтавацца да спрэчак па справаздачных дакладах Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча. Але ўчора з раніцы пачуліся прапановы аб тым, каб наогул іх не праводзіць. Так, Віктар Алампіеў у характэрнай манеры параіў не перапрацоўваць марна кісларод у вуглякіслы газ, а заслухаць прэм'ер-міністра аб мяркуемых кадравых зменах у складзе ўрада. Магчыма, яны задаволяць Вярхоўны Савет — і можна будзе ставіць кропку без дэбатаў. З іншага боку паглядзеў на тую ж праблему Мікалай Вайцянкоў: ён прапанаваў не распачынаць спрэчак, а прыступіць адразу да складання праграмы выйсця з крызісу, бо яго сцюдзёнае дыханне ўжо літаральна адчуў такі вялікі горад, як Гомель. Віктар Ганчар запярэчыў: праграмы ў такіх залах не выпрацоўваюцца, патрэбна выслухаць меркаванні хоць бы лідэраў зарэгістраваных фракцый.

І ўсё ж перамагла іншая думка: правесці спрэчкі ў поўным аб'ёме ў адпаведнасці з парламенцкай традыцыяй.

Зноў узнікла пытанне: даваць альбо не даваць час для павялічанай у два разы прамовы дэпутата ад апазіцыі БНФ Уладзіміра Заблоцкага — раней была заблакіравана прапанова аб заслухоўванні ягонага садаклада. Толькі з другога разу, пасля падтрымкі дэпутатаў Мікалая Вайцянкова, Мечыслава Грыба, Станіслава Шушкевіча, Заблоцкаму далі для прамовы 20 хвілін. Палову часу ён адвёў рэзкай крытыцы ўрада, што, магчыма, было не лепшым прыёмам. Папрокі ўраду з вуснаў лідэраў БНФ ужо нікога не могуць здзівіць ні формай, ні зместам; больш таго, яны адштурхнулі частку слухачоў: маўляў, старыя песні. Хоць у прамове Уладзіміра Заблоцкага было шмат слушных разважанняў аб неабходнасці прынцыпова новай эканамічнай палітыкі. У тым ліку і ў межах мяркуемага агульнага рынку ў межах СНД.

У канцы прамовы Заблоцкі назваў прозвішча дэпутата, які б змог задаволіць інтарэсы розных палітычных сіл і ўзначаліць новы склад урада. Такім чалавекам, на думку прамоўцы, змог бы стаць Міхаіл Марыніч, народны дэпутат, першы намеснік старшыні Дзяржэканамзнешсувязі, у недалёкім мінулым старшыня Мінскага гарвыканкама.

Дэпутат Пётр Садоўскі перасцярог ад спадзяванняў, што нашы прамысловыя флагманы такімі застануцца і ў далейшым, бо Расія прымае энергічныя меры па стварэнню аналагічных прадпрыемстваў у сябе з дапамогай замежных інвестараў. Прамоўца гаварыў таксама аб недарэчнасцях у практыцы кіравання, калі асобныя ўпраўленні апарату Саўміна падмянялі функцыі міністэрстваў.

Дэпутат Міхаіл Сукач пачаў з заўвагі ў адрас Старшыні Вярхоўнага Савета: маўляў, чаму не сказаў Станіслаў Шушкевіч аб самым галоўным — аб сваіх адносінах да ўрада. Затым прамоўца гаварыў аб неабходнасці рэфармаваць калгасны лад, які не мае сапраўднай стваральнай сілы для гаспадарання на зямлі, бо пры ім усё навокал нічыйнае. Ён таксама сцвярджаў, што пры добрай увазе да такіх культур, як піваварны ячмень, лён, можна ўсё патрэбнае купляць у любой кропцы зямнога шара.

З многімі палажэннямі даклада Станіслава Шушкевіча не пагадзіўся дэпутат Уладзімір Чакушоў. Як адзін з кіраўнікоў урадавай структуры, ён абараняў урад ад знішчальнай крытыкі. Даводзіў, што гандаль на клірынгавай аснове дазволіў завезці на Беларусь вялікую колькасць нафты.

У спісе жадаючых выступіць па стану на ўчарашні дзень значылася 80 прозвішчаў. Марафон — ды і толькі. У ім вызначыўся сваёй рэзкасцю дэпутат Аляксандр Лукашэнка. Назваўшы даклад прэм'ер-міністра слабым, ён узяўся ўсё ж канкрэтна крытыкаваць даклад Станіслава Шушкевіча. Як вынік Лукашэнка заявіў у адрас Старшыні Вярхоўнага Савета, што з ім немагчыма выйсці з крызісу і прапанаваў тайна прагаласаваць за адхіленне ад пасад Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча з фармулёўкай "за непринятие действенных мер", на што Старшыня Вярхоўнага Савета адрэагаваў рэплікай: маўляў, сэнс прапановы супярэчыць дзеючай Канстытуцыі.

У Генадзя Карпенкі, народнага дэпутата з Маладзечна, атрымалася ўраўнаважаная прамова, у якой ён выклаў шляхі пераадолення цяжкасцей, распрацаваныя Партыяй народнай згоды.

Выступленне Аляксея Камая пачалося з таго, што быў асуджаны "антинародный сговор в Вискулях". Гэта і прадыктавала танальнасць прамовы.

Такі шырокі спектр меркаванняў. Наперадзе — доўгая дыскусія.

x x x

Раніцай учарашняга дня ў ліку першых, хто павінен быў падняцца на трыбуну сесіі, старшынствуючым называлася і прозвішча народнага дэпутата Васіля Даўгалёва. Але ў зале пасяджэнняў яго не было — і ніхто не ведаў, дзе знаходзіцца намеснік старшыні Кантрольнай палаты.

Апоўдні стала вядома аб прыкрым здарэнні. Раніцай (яшчэ не было васьмі гадзін) на Васіля Даўгалёва, які накіроўваўся на працу, каля пад'езда напалі трое невядомых. Накінуліся з жорсткасцю — і невядома, якую мэту ставілі яны перад сабой. Выратавала тое, што дэпутат стаў актыўна абараняцца і ў хуткім часе да дома пад'ехала міліцэйская машына. Дапамог выпадак.

Жудасны факт — нішто не можа абараніць чалавека, нават калі ён з мандатам дэпутата і статусам аб недатыкальнасці.

Застаецца дадаць, што Васіль Даўгалёў вядомы бескампрамісным падыходам у раскрыцці розных злоўжыванняў.

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 780*

### Аб санкцыях да суб'ектаў гаспадарання, якія парушылі патрабаванні дэкларавання грашовых сродкаў, парадак і правілы безнаяўных разлікаў

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што падатковыя інспекцыі маюць права накладаць штраф:

1.1. За ўхіленне суб'ектаў гаспадарання ад прадугледжанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 11 жніўня 1993 г. №536/20 "Аб мерах па ўпарадкаванню гандлёва-эканамічных адносін і ўзаемаразлікаў з дзяржавамі, якія раней уваходзілі ў СССР" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1993 г., нумар 23, арт. 441) аднаразовага дэкларавання грашовых сродкаў, што знаходзяцца на рахунках у банках за межамі Рэспублікі Беларусь, — у размеры 50 працэнтаў сумы, на якую не была прадстаўлена дэкларацыя;

1.2. За парушэнне парадку і правіл безнаяўных разлікаў, якое выявілася ў адкрыцці суб'ектамі гаспадарання рахункаў у банках за межамі рэспублікі без дазволу Нацыянальнага банка, што прыводзіць да ўтойвання грашовых сродкаў, — у размеры ўтоеных сродкаў.

2. Штрафы, устаноўленыя гэтай пастановай, бяруцца ў грашовых адзінках Рэспублікі Беларусь па афіцыйнаму курсу Нацыянальнага банка і прымяняюцца не пазней двух месяцаў з дня выяўлення правапарушэння і не пазней аднаго года з дня яго ўчынення.

Накладанне штрафу праводзіцца на падставе рашэння кіраўніка падатковай інспекцыі, якое павінна быць даведзена да суб'екта гаспадарання на працягу 5 дзён і накіравана да выканання не раней двухтыднёвага тэрміну з дня яго давядзення.

Сумы штрафу ў безакцэптным парадку спаганяюцца ў рэспубліканскі бюджэт.

Гэта рашэнне можа быць абскарджана ў Гаспадарчы суд у двухтыднёвы тэрмін з дня давядзення. Пры падачы скаргі выкананне яго прыпыняецца да прыняцця рашэння судом.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.КАЎКО.**

15 лістапада 1993 года. г. Мінск.

## *Дыпламатыя ў асобах*

16 лістапада Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Балгарыя ў Рэспубліцы Беларусь Марка Ганчаў уручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Станіславу Шушкевічу.

— Нашы продкі не спалохаліся рабства. А мы не павінны спалохацца свабоды, — сказаў пасол у час уручэння вярыцельных грамат. — І для таго, каб гэта свабода прынесла толькі пазітыўныя перамены, неабходны ўзаемаразуменне і цеснае супрацоўніцтва паміж дзяржавамі, якія традыцыйна жылі ў дружбе і міры.

У сваю чаргу Станіслаў Шушкевіч запэўніў пасла, што зробіць усё неабходнае для плённай работы балгарскага пасольства ў рэспубліцы.

Пасля ўручэння вярыцельных грамат і абмену прамовамі паміж Марка Ганчавым і Станіславам Шушкевічам адбылася гутарка, у якой прыняў удзел міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка.



### Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Балгарыя Марка Ганчаў

Нарадзіўся ў 1932 годзе. Закончыў Сафійскі універсітэт па спецыяльнасці балгарская філалогія. Спецыялізаваўся па албанскай мове і літаратуры ў Тыранскім універсітэце.

Вядомы грамадскі дзеяч Балгарыі, паэт, сатырык, пісьменнік і перакладчык.

У 1957 годзе выйшаў першы зборнік яго вершаў, а ў 1991 годзе — трыццаты. Працаваў у вядомых балгарскіх выдавецтвах "Балгарскі пісьменнік", "Народная культура", "Стыршал", "Літаратурны форум". Выбіраўся дэпутатам Вялікага народнага сходу Балгарыі.

Валодае французскай, албанскай і рускай мовамі.

Жанаты, мае дваіх дзяцей.

**Белінфарм.**

## *Примета времени*

### "Сирена" для южан

**Ряд разбойных нападений с угрозой оружием совершила в Гомеле группа граждан с южных окраин бывшего СССР.**

В связи с этим органы милиции предприняли операцию "Сирена" по задержанию подозрительных лиц на рынках и в других общественных местах. В приемник-распределитель помещены около десятка азербайджанцев без документов и определенного места жительства. Оценивая ситуацию, юристы ратуют за введение в республике визового режима въезда, как это предусмотрено во всех цивилизованных странах.

**Анатолий ИВАНОВ.**

*Кампетэнтны*

# Двайная бухгалтэрыя дэвальвацыі рубля,

## або Тры фокусы, з дапамогай якіх абкрадаюць Беларусь

**Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар, сябра Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады**

Нішто так не заблытана ва ўзаемаадносінах паміж дзяржавамі СНД, як грашова-крэдытныя ды валютныя дачыненні. Нібы само сабой склалася так, што ўсюды адчуваецца дэфіцыт расійскіх рублёў. Прадпрыемствы краіны вырабляюць прадукцыю, экспартуюць яе, прадаюць на ўнутраным рынку, а грошай для закупкі сыравіны катастрафічна не хапае.

Такая ж, калі не горшая, сітуацыя на Украіне, у Казахстане ды іншых дзяржавах. Шмат хто бачыць прычыну ў разрыве эканамічных сувязей, хаця прычына пагражальнага стану нашай эканомікі не толькі, а можа, і не столькі ў гэтым.

У Расіі да кіраўніцтва эканомікай прыйшла пэўная група эканамістаў, якія добра валодаюць макраэканамічным аналізам і адпаведнымі формамі гаспадарчага рэгулявання на мікраўзроўні. У нас жа тыя, хто трымае ўладу, да гэтага, як кажуць, не дацягваюць. Яны клапоцяцца толькі пра тое, каб даць прадпрыемствам танныя крэдыты, забяспечыць сыравінай, "націснуць" на пастаўшчыкоў, калі яны ўнутры краіны, пазваніць, а лепей злятаць у іншыя дзяржавы — ну і ўсё.

Толькі ці ў гэтым галоўная эканамічная функцыя дзяржавы? Па вялікаму рахунку мікраэканомікай (прадпрыемствамі і галінамі) урадавыя органы павінны кіраваць праз макраэканамічныя рычагі. Што і робіць наша суседка — Расія. Спашлёмся на прыклад, які балюча закранае эканоміку Беларусі.

Усе, відаць, звярнулі ўвагу на тое, што апошнім часам нарэшце стаў падаць курс долара. Але Нацыянальны банк Расіі нават пальцам не паварушыў, каб паскорыць гэты працэс і прывесці іншаземную валюту ў адпаведнасць з пакупніцкай сілай рубля і долара на ўнутраных рынках. Па сутнасці, не былі закрануты доларавыя рэзервы банка, не былі выкінуты на валютны рынак.

Ці выпадкова гэта? Зусім не. Тут дзейнічаюць знешне непрыкметныя фокусы.

Фокус першы: усе трымальнікі рублёў пры зніжэнні яго валютнага курсу плацяць як бы даніну Цэнтральнаму банку Расіі. Раней пакупніцкая здольнасць рубля была адна, а з павышэннем курсу долара стала больш нізкая.

Фокус другі: дэвальвацыя рубля стымулюе экспарт, на што яна і разлічана. За мяжой можна прадаць неканкурэнтаздольную прадукцыю (значна ніжэй за сусветную цану) і пры пераводзе выручанай валюты на рублі атрымаць вялікую суму ўласных рублёў: хопіць на зарплату, падаткі і, можа, яшчэ што застанецца на інвестыцыі. Захоўваюцца рабочыя месцы, не расце беспрацоўе, і ўсё нібы добра.

Ніхто не стане адмаўляць, што ў значнай ступені дзякуючы дэвальвацыі рубля, нават ва ўмовах крызісу, у першым паўгоддзі гэтага года Расія мела значны актыўны гандлёвы баланс: экспарт перавышаў імпарт на 7—9 мільярдаў долараў.

Дэвальвацыя ў Расіі мала б цікавіла нас, каб балюча не закранала эканоміку нашай краіны. Узнікае пытанне: якім чынам?

Звычайна дэвальвацыя нацыянальных валют адбываецца ва ўмовах стабільнага стану ўнутранай эканомікі краіны на стадыі яе як бы перагрэву, калі паўстаюць цяжкасці з рэалізацыяй прадукцыі і можа ўзнікнуць масавае беспрацоўе. Тады ўрад з мэтаю стымуляцыі экспарту праводзіць палітыку дэвальвацыі сваёй валюты ў адносінах да іншых валют усяго на некалькі пунктаў. І гэтага дастаткова, каб адчувальны сусветны рынак адрэагаваў павелічэннем экспарту з гэтай краіны. Зразумела, ёсць страты на кожнай адзінцы тавару, але ўтвараецца выйгрыш на масе прададзеных тавараў.

Памятаецца, як у канцы шасцідзесятых гадоў была праведзена дэвальвацыя фунта стэрлінгаў усяго на некалькі пунктаў. Тады ў савецкім друку разгарнулася бурнае прапагандысцкае шоу аб крызісе валютна-фінансавай сістэмы капіталізму. Канешне, ніякага крызісу не было. А было звычайнае макраэканамічнае рэгуляванне эканомік краін Захаду праз валютныя макраэканамічныя дачыненні.

(Заканчэнне на 2 стар.)

Народная газета

*Кампетэнтны погляд*

# Двайная бухгалтэрыя дэвальвацыі рубля,

## або Тры фокусы, з дапамогай якіх абкрадаюць Беларусь

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Шуміха ў прэсе сціхла толькі тады, калі высветлілася, што і былы Савецкі Саюз як трымальнік пэўных стэрлінгавых авуараў мусіць плаціць дэвальвацыйную нацэнку. Зразумела, чаму ЗША неаднойчы звярталіся да Германіі і Японіі аб рэвальвацыі (павышэнні курсу, падаражанні) іх валют. Вынікам гэтага было б аслабленне экспарту ў ЗША японскіх ды германскіх тавараў.

Але актыўны гандлёвы баланс Расіі за першае паўгоддзе ды, відаць, і за тры кварталы 1993 года звязаны яшчэ і з трэцім фокусам дэвальвацыі рубля. Справа ў тым, што Расія танна прадае свае тавары не ў краінах СНД, а ў "далёкім" замежжы, унутры ж рублёвай зоны — па так званых сусветных цэнах, якія вызначаюцца на аснове непамерна высокага курсу долара.

Што ж з'яўляецца вынікам? Як бы там ні было, а продаж тавараў на знешнім рынку па нізкіх цэнах ёсць выйгрыш ілюзорны, бо пералік валюты дае толькі болей папяровых расійскіх рублёў у параўнанні з той сумай грошай, якая была атрымана, калі б тавары, што пайшлі на экспарт, прадаваліся на ўнутраным (дарэчы, усё яшчэ дэфіцытным) рынку. А ў рэальным значэнні гэта вялікая страта вынікаў грамадскай працы, нацыянальнага даходу.

Як кампенсаваць непамерную дэвальвацыю рубля? Вельмі проста. Трымаць сусветныя цэны на расійскую прадукцыю ў краінах СНД. Тое, што абрабаваная Украіна праз так званыя сусветныя цэны загнана ў кут, што на мяжы эканамічнай катастрофы наша краіна, Казахстан ды іншыя члены СНД, мала клапоціць расійскіх макраэканамістаў. Іх клопат адзін — насыціць таварамі ўнутраны рынак. І, здаецца, у гэтым яны маюць поспех. Двайная бухгалтэрыя дэвальвацыі рубля спрацоўвае нядрэнна ў інтарэсах Расіі.

Зноў зазначым, дэвальвацыя рубля мала б непакоіла нас, каб Беларусь не была павязана рублёвым пасам. А так мы нясём вынішчальныя страты не толькі праз двайную бухгалтэрыю дэвальвацыі расійскага рубля, але і пры закупцы тавараў у "далёкім" замежжы. Купляючы па сусветных цэнах, здаецца, за мізэр тыя ж бананы па 1 долару за кг, нашы камерсанты мусяць выстаўляць за іх цану 3,7—4,0 тысячы рублёў. Перавядзіце цану з долараў у рублі, а затым у разліковыя білеты і атрымаеце ўжо тысячы.

Двайное дно дэвальвацыі рубля добра праяўляе сябе пры фарміраванні цэн на беларускім рынку на паліва. Апошнім часам, калі пачаў разгортвацца камерцыйны гандаль паліўнымі рэсурсамі, цана аднаго літра бензіну зафіксавалася на адзнацы 1100 рублёў. З улікам таго, што фактычная пакупніцкая моц рубля ў Расіі і разліковага білета на Беларусі роўная, гэта больш чым двайная сусветная цана. Калі кошт аднаго літра бензіну ў Літве 0,2 долара, у Расіі — у межах 300 рублёў, або 0,25 долара (у адпаведнасці з валютным курсам рубля), то чаму ў нас каля долара?

Аказваецца, масла ў агонь падліў Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь на чале з прафесарам Багданкевічам. Апошні афіцыйна аб'явіў, што курс разліковых білетаў краіны да расійскага рубля роўны 3:1. Вось і разлічым зараз, што цана бензіну ў беларускіх разліковых білетах 1100 "зайцаў" за літр у расійскіх рублях будзе роўная (1100:3) 300 рублёў.

Нібы ўсё законна. Але толькі фармальна, бо пакупніцкая моц разліковых білетаў і расійскіх рублёў на ўнутраных рынках пакуль што прыкладна аднолькавая, а заработная плата на Беларусі ніжэйшая. Што ж змушае беларусаў плаціць трайную сусветную цану?

Відаць, выкарыстоўваючы вопыт Расіі, Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь вырашыў пакарыстацца палітыкай дэвальвацыі разліковых білетаў. Галоўная мэта адна — стымуляцыя экспарту беларускіх тавараў у Расію. Што гэта нам можа даць, цяжка ўявіць нават пры самай моцнай фантазіі.

Скажам, цана беларускага БелАЗа (пры аднолькавым кошце выдаткаў у Расіі і на Беларусі) складае крыху больш за 200 млн. расійскіх рублёў. Зараз пры аб'яўленым курсе беларускага разліковага рубля да расійскага як 3:1 гэты БелАЗ можна прадаць за 100 млн. (удвая знізіць цану), і ў банкаўскую сістэму Рэспублікі Беларусь паступіць (пры пераліку) ад 300 млн. разліковых білетаў. Будзе чым плаціць заработную плату, плаціць падаткі і г.д. У такім выніку зацікаўлены Нацыянальны банк.

Нібы добра. Але радавацца няма чаму, бо страты 100 млн. рублёў на расійскім рынку будуць пакрывацца прадуктам, створаным унутры краіны. Адсюль высокія цэны на бананы, мяса, бензін і ўсе іншыя тавары.

Дык што ж мы выйграем? Можа спыніцца вываз тавараў з Беларусі? Ніяк не. Расія закупляе мяса ў нас па 1000 рублёў за кілаграм, у сябе за такую цану ніхто не прадасць, бо на рынку цана мяса ў іх, як і ў нас, перавышае чатыры тысячы рублёў. А нам такая цана нібы выгадная, бо ў пераводзе на разліковыя білеты мы атрымліваем 3000 рублёў.

Відаць, мяккая дэвальвацыя беларускага разліковага білета была б выгаднай для нашай краіны пры ўмове стабільнага стану ўнутранай эканомікі, адсутнасці дэфіцыту на нацыянальным рынку. Але дзікая (трохразовая) дэвальвацыя — толькі пройгрыш. Нават пры працвітанні эканомікі, а ў сучасных умовах тым больш.

Уявіце сабе, што прадпрыемствы прадалі сваю прадукцыю ў Расіі па заніжаных цэнах і звялі канцы з канцамі на сваіх прадпрыемствах. Але ж купляць сыравіну, паліва і камплектуючыя яны павінны па вызначаных Расіяй цэнах, якія толькі ўскосна (і не адразу) залежаць ад паніжэння цэн на экспартную прадукцыю ў трэція краіны. Што ж будзе вынікам? Дэфіцыт расійскіх рублёў, крэдытная запазычанасць і інфляцыя.

Да таго ж дэвальвацыя па Багданкевічу не ўлічвае таго, што ўзрастаючая крэдытная запазычанасць перад Расіяй вельмі небяспечная. Нядаўна намеснік прэм'ер-міністра Расіі пан Чубайс заявіў па тэлебачанні, што Расія будзе дабівацца канверсіі запазычанасці краін СНД у іх нацыянальнае багацце. Дык, можа, перададзім Расіі Беларускую чыгунку, а разам з ёю і Нацыянальны банк?

Пазіцыя Нацыянальнага банка па дэвальвацыі разліковых білетаў становіцца тым больш незразумелай, калі паглядзець, як яна адаб'ецца на жыццёвым узроўні працоўных. Пры ўвядзенні разліковых білетаў тым жа Нацыянальным банкам было заяўлена, што курс разліковых білетаў да расійскіх рублёў 1:10. Цяпер заяўлена, што дадзеныя суадносіны змяніліся не на карысць разліковага білета і складаюць зараз 1:3. Значыць, фактычны заробак рабочага ці служачага, які атрымлівае, напрыклад, 90 тысяч рублёў у месяц, а ў "зайцах" гэта толькі 9 тысяч рублёў, фактычна складае каля 30 тысяч рублёў. А цэны імкліва растуць.

Толькі з тактычных пазіцый адкладзена павышэнне цэн на хлеб і малочныя прадукты. Нягледзячы на нядаўняе павышэнне цэн на гарэлку, яе няма ў продажы. А гэта сігнал, што трэба чакаць чарговага павышэння цаны. Каб супакоіць народ, пры скарачэнні вытворчасці зноў павышана заработная плата.

У гэтых варунках толькі закладваюцца ўмовы далейшага паглыблення інфляцыі. Як бачым, дэвальвацыя разліковых білетаў, якая абумоўлівае адпаведнае падзешаўленне нашай экспартнай прадукцыі ў Расію і падаражанне імпарту сыравіны і энерганосьбітаў, можа прывесці толькі да аднаго — збяднення народа.

Можа, дэвальвуючы разліковыя білеты, кіраўнікі Нацыянальнага банка маюць праграму абароны народа ад абрабавання праз інфляцыю? Тады чаго маўчаць пра гэта? А такая праграма можа быць, калі будзе грунтавацца на ўвядзенні нацыянальнай валюты, а не на выкарыстанні двайной і нават трайной бухгалтэрыі дэвальвацыі расійскага рубля.

*Просім дапамогі*

# Віцебшчына без меліярацыі загіне...

Меліярацыйная неўладкаванасць сельгасугоддзяў, асабліва ў Віцебскай вобласці, вядзе да вялікіх штогадовых страт сельгаспрадукцыі. За апошнія 25 гадоў плошча сельгасугоддзяў у вобласці зменшылася амаль на 300 тысяч гектараў. Гэтая бяда ўскладняецца тым, што і ў цяперашні час тэмпы распаўсюджвання хмызнякоў на сенажацях і пашавых угоддзях Віцебшчыны, як сведчаць назіранні, пакуль што апярэджваюць хуткасць іх знішчэння ўсімі сродкамі меліярацыйных арганізацый.

Калі да гэтага дадаць, што ў выніку чарнобыльскай катастрофы згублена каля чвэрці мільёна гектараў высокаўрадлівых зямель, а аднаўленне іх магчыма толькі ў Віцебскай вобласці, дзе першапачатковы меліярацыйны фонд перавышае 700 тысяч гектараў, то не трэба даказваць, якое значэнне мае меліярацыя для рэспублікі і асабліва для Віцебшчыны. Між тым за апошнія гады ўстойліва скарачаюцца аб'ёмы як меліярацыйнабудаўнічых, так і рамонтна-эксплуатацыйных работ на ўнутрыгаспадарчых сістэмах калгасаў і саўгасаў.

Гэта тлумачыцца рэзкім скарачэннем фінансавання меліярацыйных мерапрыемстваў як з боку дзяржавы, так і большасцю гаспадарак, нягледзячы на дзеючы закон рэспублікі аб прыярытэтным развіцці сяла ў частцы дзяржаўных інвестыцый на меліярацыю зямель. Скарачаецца парк меліярацыйных машын, звальняюцца вопытныя механізатары і спецыялісты.

З'явілася пагроза знікнення моцнай галіны аграпрамысловага комплексу, якая стваралася многія гады. Калі гэта здарыцца, то не толькі ў геаметрычнай прагрэсіі будуць змяншацца плошчы сельгаспрызначэння, а больш як паўмільёна гектараў мелiяраваных сістэм коштам каля 20 мільярдаў рублёў у дзеючых цэнах праз некалькі гадоў проста перастануць існаваць, паколькі асушальныя сеткі інтэнсіўна заглейваюцца, зарастаюць хмызнякамі, а створаныя за многія гады меліярацыйныя фонды заўчасна разбураюцца. На іх узнаўленне спатрэбяцца велізарныя капіталаўкладанні.

Гэтага нам нашчадкі не даруюць. Тым больш што з мелiяраваных зямель сельская гаспадарка вобласці атрымлівае больш за чвэрць усёй прадукцыі.

Усведамляючы ўсю адказнасць за лёс меліярацыйных збудаванняў, іх вялікую ролю ў павелічэнні аб'ёмаў сельскагаспадарчай вытворчасці, маючы на ўвазе, што Віцебшчына — найбольш характэрны рэгіён рэспублікі, дзе сканцэнтраваны такія негатыўныя прыродныя з'явы, як прагрэсіруючая закуставанасць пераўвільготненых зямель, закамяненасць, перасечанасць мясцовасці, што абумоўлівае драбнаконтурнасць пры адносна высокай прыроднай урадлівасці сельгасугоддзяў, мы — члены Таварыства меліяратараў Віцебскай вобласці — звяртаемся да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і ўрада з прапановай неадкладна разгледзець пытанні меліярацыйнага будаўніцтва і зберажэння водагаспадарчых сістэм з тым, каб своечасова акрэсліць належныя захады і пазбегнуць адзначаных негатыўных вынікаў.

**Члены абласнога Таварыства меліяратараў Я.ЛІЎШЫЦ, А.СЦЯПАНАЎ, М.СТАБРОЎСКІ, Л.БУТКЕВІЧ і іншыя. Усяго — 32 подпісы.**

*Грымасы рынку*

### Грошы да адрасатаў могуць не дайсці

**Не паспелі высахнуць подпісы кіраўнікоў паштовых ведамстваў Расіі і Беларусі пад пагадненнямі аб павелічэнні сум паштовых пераводаў, як Міністэрства сувязі і інфарматыкі Беларусі вымушана было прыпыніць прыём грошай у суседнюю дзяржаву.**

Па звестках агенцтва РІД, на такі крок пошту Беларусі штурхнуў рэзкі скачок аб'ёму пераводаў, які практычна за тры дні вырас у некалькі разоў (выгаднасць курсу 1:1 для беларусаў відавочная). У сувязі з гэтым Міністэрства накіравала афіцыйнае пісьмо старшыні Нацыянальнага банка, намесніку Старшыні Саўміна, кіраўнікам камісіі па сацыяльнай абароне насельніцтва, Планава-бюджэтнай камісіі і ў іншыя ведамствы з просьбай у бліжэйшы час вырашыць пытанне рэгламентацыі перасылкі паштовых пераводаў і схем іх выплаты. У выпадку нездавальняючага рашэння гэтага пытання, грашовыя пераводы будуць вернуты атрымальнікам.

*Аб лёсе 8-га канала*

### І ні слова аб палітыцы!

**Як стала вядома карэспандэнту агенцтва РІД, у лістападзе, магчыма, адновіцца трансляцыя 8-га канала, закрытага па ініцыятыве ўрада яшчэ ў студзені гэтага года па "шматлікіх просьбах тэлегледачоў".**

Права вяшчання (6 гадзін увечары і 3 — раніцай) атрымалі тры тэлекампаніі: "Рамас", ММ-4 і МТК. Аднак гэта навіна не натхняе творчыя групы кампаній і, бадай, не выкліча радасці ў гледачоў. Бо ў адным з пунктаў дагавора сказана: "Кампаніі устрымліваюцца пры правядзенні вяшчання ад арганізацыі палітычных праграм і прадастаўлення эфіру палітычным партыям, рухам і парламенцкім фракцыям, а таксама якіх-небудзь каментарыяў афіцыйных дзеянняў дзяржаўных і ўладных структур". Наўрад ці пасля гэтага трэба гаварыць, што такім чынам урад, мякка кажучы, закрыў вочы на існуючы "Закон аб друку" і заявіў аб увядзенні цэнзуры.

**Юрый ЛЯШКЕВІЧ.**

# Почему я начинаю день с "Народной газеты"

***Леонид ЩЕМЕЛЕВ, народный художник Республики Беларусь:***

— "Народная" — газета яркая, порой неожиданная. Меня, конечно, удивляет иногда ваша, я бы сказал, нетребовательность в вопросах культуры, зато импонирует другое: политический дух, то, что газета не навязывает одно-единственное мнение, а старается показать как можно шире всю палитру общественных настроений. Да, пожалуй, это самое ценное в "Народной" — стремление к демократичности. Вообще "Народная" — с ее эмоциональностью, искренностью, патриотизмом, даже с перегибами и ошибками — как никакая другая отражает дух нашего времени. Вы современны, поэтому интересны!



*После публикации*

# Тепло тысяч сердец для маленькой Настеньки



Сколько прекрасных людей живет в наше грустное время! В этом нас убедила почта последних дней. Сотни читателей, живущих богато и бедно, имеющих детей и без них, готовы удочерить маленькую Настеньку. (Смотрите "Народную газету" за 21 октября "О маленькой одинокой Настеньке и ее папе, у которого "душа лопнула".)

Лариса Бондаренко из деревни Новосады Барановичского района обещает девочке райскую жизнь, в которой она будет с природой. Анатолий Хомченко из Житковичей умоляет не отдавать девочку в детский дом, а привезти к нему. Двое детей в доме уже подросли, и им маленькая сестричка не помешает. Иван и Люба Наумчики из деревни Радеж Малоритского района горюют, что есть только один сынок Сережа и больше детей иметь нельзя. Как бы хотелось доченьку, Настя подходит в самый раз, добрая и такая одинокая — "для нее вся наша любовь".

"Сердце сжалось, когда увидела фотографию девочки в газете. Три с половиной года, а сколько довелось ей пережить! — пишет Валентина Новик из г.Иванова. — К Новому году я получу квартиру, у меня есть сын Сережа, собака Бим и два кота, весело мы с Настей заживем".

"У меня три дочки — 13, 12 и 9 лет. Четвертая нам не помешает. Я работаю в школе техничкой, муж — шофер и не против, чтобы у нас жила Настенька. Сообщите, когда ее можно забрать", — спрашивает Любовь Дужинская из деревни Селец Березовского района. Этот же вопрос задают Ирина Морочковская из Волковыска и Майя Демко из Солигорска. А восьмиклассники 17-й школы Витебска хотят прислать Насте подарок и просят сообщить им адрес Настиной бабушки Зины.

Спешим ответить на письма и звонки всем, что в судьбе Насти и ее папы произошли хорошие перемены. Леонид Иванович Шатило вначале возмутился: как это его "опозорили" и пропечатали в газете. Но когда ребенка забрали и положили в больницу, чтобы обследовать и сделать прививки, он вдруг понял, что может лишиться того маленького света, который лепил в нем человека. Да и в городской прокуратуре пристыдили — два высших образования имеет, неужто нельзя их в жизни применить? Первой новости радовалась баба Зина — сын бросил пить (дай Бог, чтобы навсегда). Второй — все дачники в Волчковичах — Леонид Иванович устроился на работу по самому высокому разряду, ибо умеет мастерить руками. Настенька больше не бродит в холод и слякоть, а определена в круглосуточные ясли N 67. На выходные ее забирают папа и бабушка. Пожелаем же бабе Зине еще долго жить, а Леониду Ивановичу перечеркнуть прошлое и нерастраченное отцовство без остатка подарить дочери.

**Настеньку мы сфотографировали перед отъездом в больницу.**

**Фото Сергея ГРИЦА.**

*Открытое письмо*

# Помогите дом построить

***Председателю Верховного Совета Республики Беларусь Шушкевичу С.С.***

***Премьер-министру Республики Беларусь Кебичу В.Ф.***

Уважаемые Станислав Станиславович и Вячеслав Францевич!

Мы, члены жилищно-строительного кооператива (ЖСК-1) при ПМК-58 треста "Пинскводстрой", решили обратиться лично к Вам, так как все остальные инстанции отказали в нашей просьбе.

В 1991 году на территории нашего поселка начали возводить 50-квартирный дом. Сделали нулевой цикл (т.е. подвальные помещения), и на этом строительство дома, которого мы ждали около пяти лет, прекратилось. Вся беда в том, что в ПМК-58 не оказалось денег.

Через год после замораживания строительства нас собрало руководство ПМК-58 и предложило достраивать дом своими средствами. Мы дали согласие, не видя другого выхода.

Кооператив был создан в марте 1993 года. Первоначальный взнос внесен в сбербанк г.Пинска в мае текущего года. Кооператив создан для того, чтобы окончить начатое строительство 50-квартирного жилого дома в д.Пинковичи, так как руководство ПМК-58, а также треста "Пинскводстрой" заявило, что для дальнейшего строительства данного дома нет средств, а в списках очередников на получение и улучшение жилищных условий состоит более 150 человек.

Мы обращались неоднократно к управляющему сбербанка о выделении кредита, но с его стороны были лишь заверения и обещания, хоть наш первоначальный взнос находился в обороте сбербанка более 4-х месяцев. Мы также обращались к председателю районного Совета, облсовета, к народному депутату Верховного Совета, но и это не дало нам ожидаемого результата — получения кредита.

В настоящее время дом строится, уже окончен первый этаж, ведется строительство второго этажа, но подрядчик вынужден прекратить строительство, так как финансировать мы за свой счет при отсутствии кредита не в состоянии. Поэтому мы еще раз убедительно просим Вас оказать содействие в выделении кредита для окончания строительства 50-квартирного жилого дома в д.Пинковичи.

**Члены жилищно-строительного кооператива, всего 49 подписей.**

*Дзякуй!*

# Ёсць добрыя людзі на свеце

Мінуў год, як памёр мой муж, які адпрацаваў у ПМК-6 (зараз фірма "Палессе") 32 гады. У цяжкі для маёй сям'і час кіраўніцтва і ўсе члены гэтага калектыву прыйшлі нам на дапамогу. Вялікай нечаканасцю было для нас і тое, што яны не забылі нас і праз год. Знайшлі і грошы, каб падтрымаць, паставілі помнік на магіле, выдзелілі ўчастак для пасадкі бульбы. Калі што дзялілася, не забывалі ў фірме і пра нас.

Я вельмі рада, што два мае дарослыя сыны пайшлі на работу ў "Палессе". Бацькавай сцежкай. І думаю: пакуль дэвізам гэтай арганізацыі будзе чалавечнасць, яна не патоне ў эканамічным віры, а дасць заробак і шчасце, творчасць іншым людзям. Дзякуй табе і ўсіх даброт, "Палессе"!

**Праскоўя ГРЫБОЎСКАЯ.**

*г.п.Лельчыцы.*

*Крыўдны ліст*

# "Родненькая "Народная газета", дапамажы, бо не адна я такая"

Пішу гэта пісьмо, і вочы не бачаць нічога ад слёз. Тры месяцы я не атрымліваю пенсіі і не ведаю, за што купляць хлеб, дровы, мыла. Важу 50 кілаграмаў — і ўжо ад ветру хістае. З далёкай Поўначы вярнулася ў родную хату, якую пабудавала ў 1958 годзе. Працавала медсястрой у Мастоўскім спецдоме, а калі выйшла замуж, то зведала горкага хлеба вандроўнага жыцця ваенных. З двума сынкамі ездзіла за мужам, куды яго пасылалі. Нарэшце ў Мурманску ён выйшаў у адстаўку, і мы вельмі парадаваліся, што можам вярнуцца на радзіму. Каб не рызыкаваць на старасці гадоў, я прыехала ў Навагрудак і пачала клапаціцца аб прапісцы ў свой дом і афармленні пенсіі. У Мурманску сказалі, што пенсію мне прызначаць адразу пры прадастаўленні пенсіённай справы па фактычным месцы пражывання. Але на маёй радзіме страшэнна бюракратычны канвеер і законы, якія абражаюць чалавека. Мяне паслалі ў АВІР, прапанавалі запоўніць стос папер, усё гэта адправілі ў Гродна, і ніякіх звестак няма ўжо трэці месяц. Іду з пенсіённай справай у Навагрудскі сабес, там ніякіх папер не бяруць і кажуць — толькі з дня прапіскі па закону Рэспублікі Беларусь. Хай жа той, хто ствараe гэтыя законы, пагаладае толькі месяц, а не тры, як я, мо паразумнее?

Занепакоены муж пайшоў на пошту, каб выслаць мне пераvод, а яму сказалі, што ўсё роўна ваш адрасат грошы не атрымае, расійскіх грошай у Беларусі не даюць, усе пераводы назад вяртаюцца. Дзеці далёка. У каго прасіць дапамогі? Родненькая газета, турбую цябе, бо не адна ж я такая. Стаў пытанне рубам перад Вярхоўным Саветам. Недапрацаваныя законы трэба мяняць, бо яны не вытрымалі праверкі жыццём.

**Ірына БАЙКОВА.**

*г.Навагрудак.*

*Спасибо вам, добрые люди*

# Множество друзей появилось у маленького Сережи

Каких бы слов благодарности я ни искала, все равно не могу оценить ту людскую доброту, бескорыстие и отзывчивость, с которыми столкнулась после опубликования моего письма в газете ("Народная газета" за 19 октября "Света белого от слез не вижу"). Целую неделю меня разыскивали люди, чтобы прислать или передать лекарства моему сыну. Благодаря этим ангелам-хранителям у нас появился маленький запас финлепсина. Спасибо тебе, "Народная", и материнская благодарность всем, кто помог моему маленькому Сереже, страдающему эпилепсией.

**Людмила ГРИЦУК.**

*г.Дрогичин.*

**ОТ РЕДАКЦИИ.** *Мы получили много писем с просьбой сообщить адрес Людмилы. Все, кто хочет выслать ей лекарства, пишите по адресу: 225830, г.Дрогичин Брестской области, ул. К.Маркса, д.28, кв.7. Л.В.Грицук.*

*Адным абзацам*

# На цеплаходзе музыка маўчала?

**Сумныя вынікі падвялі, заканчваючы навігацыю, гомельскія рачнікі.**

Страты ад перавозак пасажыраў склалі 170 мільёнаў рублёў. І гэта пры тым, што частку затрат абласны і гарадскі Саветы пакрылі са сваіх, і без таго бедных бюджэтаў. Рачнікі лічаць, што прычына ў нізкай плаце за праезд, а для грамадзян і гэтыя цэны высокія. Зрэшты, у новую навігацыю спрэчка можа вырашыцца сама сабой: ужо сёння няма чым рамантаваць судны, няма за што купіць гаручае.

**Белінфарм.**

# Кропкі над "і"

У маім артыкуле "Настае час дзеянняў і расплаты", надрукаваным у "Народнай газеце" 9 лістапада гэтага года, зроблены прыкрыя карэктарскія памылкі, якія мяняюць сэнс думак на процілеглы. Так, напрыклад, надрукавана, што наменклатурныя кіраўнікі гатовы "расплаціцца дзяржавай, якую **паважаюць** за тавар, за сваю прыватную ўласнасць". У сапраўднасці трэба: "**уважаюць** за тавар..." (г.зн. лічаць).

Надрукавана таксама: "з аднаго боку БНФ, "Саюдзіс", новыя людзі, **наменклатура**, а з другога — якраз камуністычная наменклатура". У сапраўднасці трэба: "БНФ, "Саюдзіс", новыя людзі, **не-наменклатура**..." і г.д.

**Зянон ПАЗЬНЯК, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

*Тэатральны сезон*

# Хлеб дарагі, затое відовішча бясплатнае...

**18 лістапада ў новае памяшканне па вуліцы Крапоткіна, 44 у Мінску пераехаў і пачынае свой трэці сезон Рэспубліканскі тэатр-лабараторыя беларускай драматургіі "Вольная сцэна".**

Малазабяспечаным інвалідам, пенсіянерам і ўдзельнікам вайны на кожны спектакль тэатр пакідае 10 бясплатных месцаў. Каб атрымаць іх, дастаткова будзе патэлефанаваць у дзень спектакля па нумары 34-60-08 з 11 да 12 гадзін. Тыя ж, хто атрымаў запрашэнне на адкрыццё сезона, стануць удзельнікамі своеасаблівых хрэсьбін тэатра і адведаюць бясплатна сапраўднай "бабінай" кашы.

**Іван ЧАРКАС.**

*Крымінал*

# Нож як аргумент у спрэчцы

**Высвятляючы за святочным сталом, хто каму здраджвае, жонка вырашыла пытанне на сваю карысць, ударыўшы мужа нажом у сэрца. Сіротамі засталіся двое дзяцей.**

Як перадаў карэспандэнт РІДа, у гэтым годзе гэта другое падобнае злачынства ў Оршы. У першым выпадку без апекі бацькоў засталіся чацвёра дзяцей...

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

